ЛЕБЯДЗІНАЕ ВОЗЕРА. Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.

ГРЫБНЫ СЕЗОН

# ПАМЯТАЙЦЕ: АТРУЦІЦЦА МОЖНА НЕ ТОЛЬКІ МУХАМОРАМ, АЛЕ І БАРАВІКОМ...

**Сухое, спякотнае надвор'е летам не спрыяла росту грыбоў. Затое цяпер, пасля асенніх дажджоў, з'явіліся адразу амаль усе прадстаўнікі грыбнога сямейства. Ды не вельмі спяшайцеся, аматары «ціхага палявання», будзьце асцярожнымі: далёка не ўсе грыбы і не ўсюды бясшкодныя для здароўя і нават жыцця. Напрыклад, у штотыднёвіку «Аргументы і факты» нядаўна паведамілі, што ў Варонежскай вобласці атруціліся грыбамі 192 чалавекі, з іх 23 памерлі. Пра падобную трагедыю ў зоне Санкт-Пецярбурга перадаў тэлеканал «Астанкіна».**

**Наш няштатны карэспандэнт Георгій ПАРАФЯНЮК звярнуўся за тлумачэннямі, парадамі да міколага, дырэктара музея прыроды Нацыянальнага дзяржаўнага парку «Белавежская пушча» Паўла МІХАЛЕВІЧА. Вось што ён сказаў:**

НАРОДНЫ ЛЯЧЭБНІК

— Вядома, завочна я не магу даць ніякага заключэння аб прычынах атручэнняў людзей грыбамі ў Расіі. Яны могуць быць рознымі, і гэта высвятляюць спецыялісты на месцы. Аднак, важна папярэдзіць нешта падобнае ў нас, на Беларусі. Таму і хачу звярнуць увагу чытачоў «Звязды» на простыя, але вельмі важныя правілы, якія павінен ведаць кожны грыбнік.

**— Павел Кірылавіч, спачатку некалькі слоў пра публікацыі аб атручэннях грыбамі...**

— У іх ёсць даволі слушныя прапановы. Але нямала і некампетэнтнага. Вось у тым жа № 32 «Аргументов и фактов» пішуць: «Спачатку мы грашылі на несапраўдныя формы белай паганкі, але сярод тых, хто атруціўся, былі вопытныя грыбнікі, якія памыліцца ніяк не маглі. Яны збіралі сыраежкі, масленкі, падбярозавікі, свінухі, шампіньёны, паплаўкі, чорныя груздзі». Тут адразу некалькі памылак. Па-першае, ніякіх «несапраўдных форм белай паганкі» няма, медыкі гэты від дзеляць на тры разнавіднасці — зялёную, белую і жоўтую. На самай справе, маюцца на ўвазе белая паганка (зялёная), мухаморы— веснавы і смярдзючы (абодва віды з белымі шапачкамі), мухамор паганкападобны (з жоўтай, салатавай шапачкай). Дарэчы, хачу зазначыць, што пласцінкі ва ўсіх маладых ядавітых мухамораў белыя, а не ружовыя, як у шампіньёна (пячуркі).

Да таго ж, ядавітымі з'яўляюцца і некаторыя іншыя віды мухамораў — пантэрны, парфіравы, чырвоны.

Па-другое, свінухі або свінаркі (на захадзе рэспублікі іх называюць паддубнямі) ні ў якім разе збіраць нельга: у заходніх краінах яны даўно лічацца неядомымі, а ў нас з 1986 года забаронены іх збор і нарыхтоўка з-за таксічнасці. Хоць бы адкрылі аўтары публікацыі папулярную кнігу «Всё о грибах», у якой на старонцы 179 дакладна сказана пра ядавітасць гэтых грыбоў, праўда, іх атрутныя рэчывы не адразу, а паступова разбураюць печань і іншыя органы.

Па-трэцяе, чорныя груздзі, як і іншыя так званыя млечнікі, прыгодныя толькі для засолкі, прычым ужываць іх можна не раней, чым праз 40 дзён пасля салення. Калі ж такія грыбы адразу падсмажыць на патэльні—атручэнне непазбежнае.

А вось артыкул у газеце «Правда», апублікаваны 6 жніўня г. г. пад красамоўнай назвай «Гэтыя грыбы нас у труну загоняць». Правільна тут напісана пра неабходнасць умелай кулінарнай апрацоўкі грыбоў, абавязковага адварвання не менш 40 мінут перад тым, як смажыць. Ды вось зноў недарэчнасць, пэўна, «накрутка» журналісткі: «Пры апрацоўцы нават мухаморам не атруцішся!» Якое глупства! Не атруцішся, калі гэта ядомы, скажам, шэра-ружовы мухамор, а калі ядавіты від, дык ніякая кулінарная апрацоўка не дапаможа. Так, аманітатаксін белай паганкі стойка пераносіць нават пекла доменнай печы. Хоць сто разоў адварвай, усё роўна атрута застаецца. Няпраўда і тое, што грыб вырастае літаральна за адзін дзень: патрэбна для гэтага не менш 3—4 дзён. Да таго ж, тое, што мы называем грыбам — толькі яго пладовае цела, а грыбніца, якую мы не бачым, жыве і расце многія гады.

**— Што ж, наконт ядавітых грыбоў усё зразумела, а ці можна атруціцца ядомымі, скажам, баравікамі?**

— На жаль, можна. Калі гэтыя грыбы старыя, чарвівыя, засохлыя — у іх сам грыбны бялок утрымлівае мікатаксіны. Ды і пры няправільным захоўванні сухіх грыбоў ці псаванні кансерваў таксама можна атрымаць моцнае атручэнне.

І варта памятаць, што любы ядомы від грыбоў здольны паглынаць ядавітыя рэчывы, канцэнтрацыя якіх у сухое надвор'е ўзрастае.

Да таго ж, у ядомых відаў нярэдка ёсць небяспечныя двайнікі. У Швейцарыі не збіраюць баравікоў. І не таму, што яны самі па сабе нясуць небяспеку, а таму, што там ёсць ядавітыя двайнікі, і сярод іх вельмі небяспечны — сатанінскі грыб. У нас ён, на шчасце, не сустракаецца. Хоць ёсць іншы двайнік — жоўцевы грыб ці гарчак (у яго знізу шапачкі мякаць ружовая). Гэта — неядомы грыб (з-за горкага смаку). Але наўрад ці ім хто можа атруціцца: пакаштуе горкую страву, сплюне і есці не стане. Між тым, смяротна ядавітыя паганкі, як зазначалі тыя, хто імі атруціўся, вельмі прыемныя на смак. І яшчэ. Каварная бледная паганка не адразу, а толькі праз 6—12 гадзін, а то і пазней дае пра сябе знаць, калі ўжо зрабіла сваю чорную справу і выратаваць хворага вельмі складана.

**— Дык як засцерагчыся ад атручэння грыбамі? Зусім іх не збіраць, ці што? Але ж так хочацца лясных далікатэсаў?**

— Магчыма, хутка так і будзе, што ўсе грыбы ў лясах акажуцца ядавітымі. Калі не спыніцца забруджванне нашых лясоў. І так «чыстых» зон засталося вельмі мала. Адна чарнобыльская аварыя накрыла радыенуклідамі большую частку тэрыторыі рэспублікі. У некаторых краінах ужо і сапраўды не збіраюць дзікарослыя грыбы і ягады — небяспечна, а вырошчваюць экалагічна чыстую прадукцыю ў падвалах, цяпліцах (шампіньёны, вешанкі і інш.). Вядома, баравікі і іншыя грыбкі ў цяпліцы не вырастуць — тады іх трэба было б узяць пад шкло разам з лесам.

А ў заключэнне дам грыбнікам парады, якія, спадзяюся, дапамогуць ім пазбегнуць бяды:

Збірайце толькі тыя грыбы, якія вы добра ведаеце. Не верце ніякім «універсальным» спосабам вызначэння ядавітасці грыба — іх трэба адрозніваць, як, скажам, бульбу ад бурака, інакш нічога не дапаможа;

— не збірайце грыбы, у якіх ножка знізу мае клубнепадобнае патаўшчэнне. Памятайце, што небяспечныя мухаморы маскіруюцца пад сыраежкі, шампіньёны, зялёнкі;

— лепш бярыце грыбы з ножкамі, тады вопытны грыбнік дапаможа вам праверыць грыбы ў вашым кошыку. Без ножак ядавітыя лёгка зблытаць з ядомымі;

— пры зборы шампіньёнаў памятайце: пласцінкі ў іх ружовыя, а не белыя. Але і тут ёсць ядавіты двайнік — карболавы шампіньён, які на зрэзе жаўцее на некалькі хвілін, мае пах карболкі.

— калі вы слаба ведаеце грыбы, лепш не збірайце пласцінчатых (тыпу сыраежкі). Сярод трубчатых (баравікі, падасінавікі, падбярозавікі, масленкі) ёсць толькі неядомыя (горкія на смак), атрутных у нашай мясцовасці не сустракаецца;

— навучыцеся адрозніваць сапраўдныя і несапраўдныя апенькі (і тых, і другіх — па некалькі відаў!);

— збірайце толькі маладыя, здаровыя, добра развітыя грыбы, якія нельга зблытаць з іх атрутнымі двайнікамі. Старыя, засохлыя, пашкоджаныя збіраць нельга;

— нельга збіраць грыбы ў зонах, забруджаных радыенуклідамі. Калі вы не думаеце пра сваё здароўе, дык хоць не давайце есці стравы з гэтых грыбоў дзецям. Наогул, усе грыбы, сабраныя ў Беларусі, трэба правяраць «на радыяцыю» ў адпаведных лабараторыях;

— нельга збіраць грыбы ў прамысловай зоне, а таксама бліжэй чым за 50 метраў ад ажыўленых аўтамагістраляў і чыгункі — там грыбы таксама атручаны шкоднымі выкідамі. Шведы не выпадкова гэтыя зоны паблізу дарог называюць зонамі смерці.

Не стаўлю на мэце кагосьці адпуджваць ад грыбоў, перш наперш хочацца папярэдзіць бяду.

## НАДВОР'Е

**22 верасня**

Сёння ўдзень па рэспубліцы воблачнае з праясненнямі надвор'е без ападкаў. Тэмпература паветра ў Брэсце, Гомелі, Магілёве — 14—16, Мінску, Віцебску, Гродна — 15—17 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак сухое, месцамі з начнымі замаразкамі надвор'е. Тэмпература паветра ўначы 3—8, удзень — 14—19 градусаў цяпла.

Л. САНКЕВІЧ, інжынер-сіноптык.

# БАГАТЫЯ ТАКСАМА ПЛАЧУЦЬ

**(Працяг. Пачатак у №№ 185, 186, 187, 189).**

### МАРЫЯНА

Марыяна дрэнна сябе адчувае, але яна задаволена прыходам Леанарда і прымае яго ў сваім пакоі. Яна яшчэ не ведае, што прычына яе хваробы—цяжарнасць.

У час гутаркі з Леанарда маладая жанчына траціць прытомнасць і падае. Леанарда падтрымлівае Марыяну за талію, і ў гэты момант у пакой уваходзіць Луіс Альберта. Рэйс у Бразілію адмянілі з-за нялётнага надвор'я.

Асляплены рэўнасцю, сеньёр Сальвацьера учыняе грандыёзны скандал. Ён не жадае слухаць ні Марыяну, ні Леанарда, ні Марыю, ні Рамону. Яму ўсё зразумела: ён застаў сваю жонку ў спальні з іншым мужчынам—хіба гэта не прычына для разводу?

Марыяна глыбока зняважана недаверам мужа, дзеля якога яна столькі выцерпела і які ёй даражэй за ўсё на свеце.

Разгневаны Луіс Альберта заяўляе, што пасля вяртання з Бразіліі будзе дабівацца разводу. Яму не патрэбна жонка, якая ў першы ж дзень адсутнасці мужа запрашае да сябе каханка. Ён ідзе з дому і на наступны дзень пакідае Мексіку.

Марыяне ўсё гэта здаецца кашмарным сном, верхам несправядлівасці, але што яна можа зрабіць?

Праз некаторы час яна зразумела, што чакае дзіця. Рамона і Марыя раяць ёй паведаміць аб гэтым Луісу Альберта тэлеграмай, але Марыяна вырашае сама паехаць у Бразілію і пагаварыць з мужам.

### ЛУІС АЛЬБЕРТА

Луіс Альберта заняты справамі фірмы: набыта зямля пад забудову, наняты рабочыя. Але памяць пастаянна вяртае яго да той сцэны ў спальні жонкі. Не, ён ніколі не даруе гэтай жанчыне, якая так насмяялася над яго каханнем. Ён не мае пра Марыяну ніякіх звестак, і дзякуй Богу. Так будзе лягчэй яе забыць.

Вераніка КАСТРА ў час сустрэчы на тэлестудыі Астанкіна. Здымак зроблены з экрана тэлевізара.

Будаўніцтва ідзе добра і абяцае вялікі прыбытак.

Марыяне цяжка было адшукаць у Бразіліі будоўлю мужа. Яна ўпэўнена, што зможа ўсё растлумачыць Луісу Альберта; яна ніколі не здраджвала яму, акрамя яго ў яе не было ніводнага мужчыны.

Марыяна лічыць: даведаўшыся пра тое, што яна чакае дзіця, яго дзіця, муж верне ёй сваё каханне.

Аднак яе чакае глыбокае расчараванне. Луіс Альберта сустракае жонку вельмі холадна. Ён не хоча чуць яе тлумачэнняў. Для яго факт здрады наяве. Ён усё бачыў на свае вочы. Ну а дзіця няхай выхоўвае яго «татачка»—Леанарда. Муж не верыць ні адзінаму слову Марыяны і патрабуе разводу.

Марыяна ўзрушана жорсткасцю Луіса Альберта. Жыццё без каханага чалавека страціла для яе ўсякі сэнс. Яна вяртаецца ў Мехіка, бязмэтна ходзіць па вуліцах. Пра яе вяртанне не ведаюць ні Рамона, ні Марыя.

Многа разоў Марыяну наведвае думка аб самазабойстве. Яе спыняе толькі тое, што разам з ёю загіне іх дзіця.

Нарэшце падыходзіць час родаў, і Марыяна трапляе ў радзільны дом. Яна добра нарадзіла хлопчыка, але яе стан моцна пагоршыўся. Яна перастала разумець, што робіць, куды ёй трэба ісці.

Выйшаўшы з сынам, якога яна назвала Бета, з радзільнага дома, Марыяна сустрэла ўжо немаладую жанчыну, прадаўшчыцу латарэйных білетаў, папрасіла яе пабыць з сынам некалькі хвілін і пайшла. Калі яна апамяталася і вярнулася за дзіцем, ні жанчыны, ні сына не было на тым месцы, дзе яна іх пакінула. Гэта канчаткова пазбаўляе яе разважлівасці, і яна трапляе ў клініку для душэўнахворых.

### РАМОНА

Занепакоеная доўгай адсутнасцю Марыяны, Рамона пачынае яе шукаць. Яна даведваецца, што Марыяна даўно вярнулася ў Мехіка. Гэта яшчэ больш палохае яе.

Нарэшце яна знаходзіць Марыяну ў клініцы. Стан жанчыны вельмі цяжкі—яна ўвесь час сцвярджае, што страціла сына. Урачы мяркуюць, што ў Марыяны неадчэпная ідэя. Аднак Рамона разумее, што яна гаворыць праўду.

Луіс Альберта вяртаецца дамоў. Даведаўшыся пра няшчасце Марыяны, ён глыбока раскайваецца ў сваіх паводзінах. Менавіта з-за яго жонка трапіла ў псіхіятрычную бальніцу. Луіс Альберта не шкадуе грошай, каб вылечыць Марыяну. У яе цудоўны ўрач, з якім Луіс Альберта доўга гутарыць.

Марыяна пачынае папраўляцца. Аднак думка аб страце сына пастаянна не дае ёй спакою. Яна ўвесь час спрабуе яго адшукаць. Марыяна даравала Луісу Альберта, і хутка ён павінен забраць яе дамоў.

Перад выпіскай доктар раіць Луісу Альберта не забараняць жонцы шукаць страчанага сына. Але ні ён, ні Луіс Альберта не вераць у існаванне дзіцяці. Яшчэ адна парада доктара— узяць з прытулку груднoе дзіця, гэта павінна зменшыць боль Марыяны.

Луіс Альберта выконвае параду ўрача. Ён бярэ з дзіцячага прытулку грудную дзяўчынку па імені Марысабель і ўдачарае яе. Калі Марыяна ўбачыла дзіця, яна падумала, што муж знайшоў іх хлопчыка. Але, на жаль, хлопчык аказаўся дзяўчынкай. І вось цяпер кожны дзень Марыяна разам з Рамонай адпраўляюцца на пошукі сына.

Так працягваецца семнаццаць гадоў.

Марыяна палюбіла прыёмную дачку. Яна клапоціцца пра яе адукацыю і выхаванне. У сям'і Сальвацьера пануюць любоў і згода, але боль страты ўласнага сына не пакідае Марыяну. Яна не спыняе яго пошукаў.

Луіс Альберта прывык да таго, што жонка часта выходзіць з дому. Толькі Марысабель крыўдзіцца з-за гэтага на маці.

Дзяўчынка вырасла і стала сапраўднай прыгажуняй, але яна нічога не ведае ні пра сына Марыяны, ні пра сваіх сапраўдных бацькоў.

### САРА

У якасці карміцелькі Марысабель Луіс Альберта ўзяў да сябе ў дом нейкую Сару.

Гэта маладая разбітная маладзіца «паклала вока» на гаспадара і спрабуе ўсімі праўдамі і няпраўдамі спакусіць яго. Яна паводзіць сябе нахабна. Пастаянна намякае Луісу Альберта на непаўнацэннасць Марыяны. Як і нябожчыцу Эстэр, Сару цікавяць толькі грошы.

Аднойчы Луіс Альберта здраджвае Марыяне з Сарай. Пасля гэтага Сара пачынае шантажыраваць свайго гаспадара. Пагражае расказаць Марыяне пра яго здраду і патрабуе за маўчанне грошы.

Абураны Луіс Альберта ва ўсім прызнаецца жонцы і выганяе шантажыстку з дому.

Марыяна і на гэты раз даруе мужу.

### ПРАЗ СЕМНАЦЦАЦЬ ГАДОЎ...

### МАРЫЯНА

Семнаццаць гадоў беспаспяховых пошукаў не зламалі Марыяну. Мехіка—вялікі горад са шматмільённым насельніцтвам, але ж калі-небудзь ёй павінна пашанцаваць. Надзея не пакідае яе.

Марыяна некалькі разоў вяртаецца да размовы пра сына з Луісам Альберта, але той не прымае ўсур'ёз яе пошукаў. А аднойчы нават заяўляе Марыяне, што наўрад ці змог бы жыць з жанчынай, што страціла ці падаравала каму-небудзь іх дзіця. У такой жанчыны зусім адсутнічае пачуццё мацярынства.

Горкія словы мужа глыбока ранілі душу Марыяны.

### БЕТА

Тым часам іх сын Бета выхоўваўся ў беднай прадаўшчыцы латарэйных білетаў.

Калі сеньёра Чоле (так звалі гэту жанчыну) прынесла ў дом чужое дзіця, муж кінуў яе. «Ці я, ці падкідыш»—паставіў ён пытанне рубам. Сеньёра Чоле выбрала падкідыша.

Яна жыла ў самым бедным квартале Мехіка і, вядома, не магла даць хлопчыку ніякай адукацыі. Але яна аддавала яму ўсю сваю любоў і выхавала сумленным і сціплым.

Ён з дзіцячых гадоў дапамагаў сваёй прыёмнай маці прадаваць латарэйныя білеты. Бета вельмі любіў і паважаў сеньёру Чоле, лічыў яе роднай маці. Гэта быў высокі, стройны прыгожы юнак, з рысамі сапраўднай высакароднасці, якія атрымаў у спадчыну ад сваіх сапраўдных бацькоў.

Разам з імі жыла сяброўка сеньёры Чоле Феліпа, звычайная добрая жанчына, якая ў далейшым ледзь не адыграла ракавую ролю ў лёсе Бета.

Так бы і працягвалася іх жыццё, калі б не хвароба сеньёра Чоле. Прыёмная маці Бета трапляе ў клініку. Ёй неабходны вельмі дарагія лекі, толькі яны могуць яе выратаваць. Але грошай у Бета няма, і ён не ведае дзе іх узяць.

### КРАДЗЕЖ

У Бета ёсць знаёмы па імені Себасцьян. Ён займаецца дробнымі крадзяжамі, і іншы раз у яго ёсць грошы.

Бета просіць яго пазычыць патрэбную суму. Грошай у Себасцьяна не было, а можа, ён не захацеў выручыць сябра. Замест гэтага ён прапануе Бета абрабаваць адзін багаты асабняк, які ён даўно прыгледзеў. Бета спачатку адмаўляецца, але ў яго няма выйсця. Грошы патрэбны тэрмінова, ад іх залежыць жыццё маці. Дзеля яе юнак вырашае пайсці на злачынства.

Себасцьян прыводзіць у начы яго да дома, які яны павінны абрабаваць. Аднак сам Себасцьян у дом ісці не хоча, а пасылае туды Бета. Па волі лёсу гэта аказаўся дом яго бацькоў.

Нявопытны ў зладзейскіх справах хлопчык адразу пападаецца. Убачыла яго Марыяна, а потым з пісталетам у руцэ увайшоў Луіс Альберта.

Бета спрабуе растлумачыць, што толькі хвароба маці штурхнула яго на гэты ўчынак. Яму тэрмінова патрэбны грошы на лекі.

Мацярынскі інстынкт падказвае Марыяне, што гэта іх сын, і яна адразу ж верыць яму.

Але Луіс Альберта няўмольны, ён хоча пакараць злодзея, здаць яго ў паліцыю. І як ні просіць Марыяна адпусціць хлопчыка, муж адмаўляецца выканаць яе просьбу.

Бета трапляе ў турму.

### МАРЫЯНА

Усю ноч Марыяна не зводзіць вачэй.

Раніцай яна купляе неабходныя лекі і едзе ў бальніцу да сеньёры Чоле. Там яна даведваецца, што хлопчык сказаў праўду. Яна не сказала, што Бэта ў турме, проста паведаміла, што ён вельмі заняты, таму што ўладкаваўся працаваць да яе садоўнікам. Як толькі ён вызваліцца, адразу ж прыедзе наведаць маці.

Для сябе Марыяна вырашае зрабіць усё магчымае, каб вызваліць хлопчыка з бяды. Яна прыходзіць да яго ў турму, супакойвае, гаворыць, што маці стала лепш і абяцае Бета, што яго хутка выпусцяць адсюль.

Дома Марыяна працягвае ўгаворваць Луіса Альберта забраць заяву аб спробе крадзяжу.

Луіс Альберта не разумее, чаму яго жонка праяўляе такую спагаду да малалетняга злачынцы, але нарэшце згаджаецца на яе ўгаворы.

Бета выпускаюць на волю.

Марыяна кожны дзень наведвае ў бальніцы сеньёру Чоле. Яны доўга гавораць пра Бета. Сеньёра Чоле адкрывае Марыяне сваю тайну.

Бета не родны яе сын. Семнаццаць гадоў назад маладзенькая дзяўчына папрасіла яе пасядзець з дзіцем, пайшла і не вярнулася. Сеньёра Чоле забрала хлопчыка да сябе дамоў і з таго часу выхоўвае яго як роднага сына.

Пасля гэтага прызнання Марыяна канчаткова зразумела, што Бета яе сын.

Марыяна шчаслівая бясконца.

### БЕТА

Выйшаўшы з турмы, Бета разам з Марыянай прыходзіць у бальніцу да маці. Сеньёра Чоле адчувае сябе значна лепш. І яна, і Бета не ведаюць, як аддзячыць Марыяне за ўсё, што яна для іх зрабіла.

Марыяна думае пра будучыню знойдзенага сына. Тайком ад Луіса Альберта яна купляе для Бета і сеньёры Чоле цудоўную кватэру, наймае яму выкладчыкаў. На гэта ідзе многа грошай, але Марыяна нічога не шкадуе для сына.

Рамона ўгаворвае Марыяну расказаць пра хлопчыка Луісу Альберта. Але Марыяна баіцца, што цяпер муж на ўспрыме яго як сына. Акрамя таго, яна добра помніць, што Луіс Альберта сказаў наконт маці, якая страціла сваё дзіця. Потым, калі хлопчык атрымае адукацыю, яна пазнаёміць яго з сапраўдным бацькам.

Бета з вялікай стараннасцю авалодвае ведамі. Ён вельмі прывык да сваёй багатай апякункі і не хоча падводзіць яе.

**(Працяг будзе).**

## ТЭЛЕБАЧАННЕ

### 22 верасня

**Беларускае тэлебачанне**

**16.30.** Навіны.
**16.35.** Беларуская мова. 1 клас. «Наш край завецца Беларуссю».
**16.50.** «Капрызка», «Каменныя музыкі». Мультфільмы.
**17.20.** Для школьнікаў. Ці любіце вы тэатр?
**18.00.** Студыя «Тэлесябрына». «Калі памятаем...»
**18.25.** Футбол. «Дынама» (Мінск) — «Беларусь» (Мінск). У перапынку (19.15) — Абласныя навіны (Віцебск).
**20.20.** Прадстаўляе Сычуаньскае тэлебачанне (Кітай). Фільм для дзяцей «Добры хлопчык». 4-я серыя «Пакуты Сяо Цзя-Цзя».
**20.45.** Калыханка.
**21.00.** Панарама.
**21.25.** Тэлебіржа.
**21.35.** Прадстаўляе Сычуаньскае тэлебачанне (Кітай). «Малюнак цукрам у правінцыі Сычуань». Дак. фільм.
**21.50.** «Танец заходняга Кітая». Музычны фільм. 1-я серыя.
**22.20.** «Спадарожнік «Вялікі паход» узлятае сёння вечарам». Маст. фільм. 2-я серыя.
**23.15.** НІКа.
**23.30.** Футбол-92. «Ведрыч» (Рэчыца) — «Днепр» (Магілёў).

**Канал «Астанкіна»**

**17.00.** Навіны.
**17.25.** Міждзяржаўны тэлеканал «Астанкіна» прадстаўляе.
**18.00.** «Багатыя таксама плачуць».
**18.45.** «Мініяцюра». Музычная праграма.
**19.00.** Тэма.
**19.45.** Добрай ночы, малышы!
**20.00.** Навіны.
**20.35.** III Міжнародны конкурс папулярнай музыкі і песні «Голас Азіі». Перадача з Алма-Аты.
**22.05.** За крамлёўскай сцяной.
**22.30.** Аўтаралі «Парыж — Масква — Пекін».
**23.00.** Навіны.
**23.25.** Каханне з першага погляду. Дзень першы.

**Канал «Расія»**

**16.15.** Студыя «Рост». «Кенгуру».
**16.45.** Там-там навіны.
**17.00.** Майстэрня музыкі. Перадача 2-я. Фартэпіянная школа Сяргея Мальцава.
**17.35.** «Споведзь». Перадача аб жыцці і творчасці мастака Юрыя Рэпіна.
**18.00.** Парламенцкі веснік.
**18.15.** Магікане. Ігар Гарбачоў.
**19.00.** Весткі.
**19.20.** Свята кожны дзень.
**19.30.** «Санта-Барбара». Маст. фільм.
**20.20.** Экспацэнтр прадстаўляе...
**20.25.** «Як можна выжыць». Эксперымент у Ніжнім Ноўгарадзе.
**20.55.** Пятае кола.
**22.00.** Весткі.
**22.20.** Спартыўная карусель.
**22.25.** На сесіі Вярхоўнага Савета Расіі.
**22.55.** З залы Канстытуцыйнага суда Расіі.
**23.25.** Арт-абстрэл.

### 23 верасня

**Беларускае тэлебачанне**

**8.30.** Раніца рэспублікі.
**8.45.** «На варце прыроды». Кінанарыс.
**9.00.** Беларуская мова. 1 клас. «Наш край завецца Беларуссю».
**9.15.** «Званіца». Мастацка-публіцыстычная праграма (паўтор).
**10.15.** «Трэст, які лопнуў». Маст. фільм. 1-я і 2-я серыі.
**12.30.** «Два словы ў пісьме». Дак. фільм.
**15.25.** На атрыманне Дзяржаўнай прэміі Беларусі. «Плач перапёлкі». 7-я серыя.
**16.30.** Навіны.
**16.35.** «Віталь Біянкі». Маст. фільм.
**17.35.** «Добры лес», «На рынгу». Мультфільмы.
**18.00.** «Вешчая птушка».
**18.30.** Рыначныя адносіны на Магілёўскім аўтазаводзе і «Магілёўсельмашы».
**19.00.** Абласныя навіны. (Гомель).
**19.10.** «Пяць зорак». Тэлегульня.
**20.10.** Прадстаўляе Сычуаньскае тэлебачанне (Кітай). Фільм для дзяцей «Добры хлопчык». 5-я серыя, «Сяо Цзя-Цзя і панда».
**20.40.** Калыханка.
**21.00.** Панарама.
**21.25.** Прадстаўляе Сычуаньскае тэлебачанне (Кітай). «Слынныя закускі ў горадзе «Чэнду». Дак. фільм.
**21.45.** «Танец Заходняга Кітая». 2-я серыя.
**22.15.** «Спадарожнік «Вялікі паход» узлятае сёння вечарам». Маст. фільм. 3-я серыя.
**23.15.** Закрыццё Тыдня Сычуаньскага тэлебачання (Кітай).
**23.45.** НІКа.

**Канал «Астанкіна»**

**5.00.** Навіны.
**5.20.** Ранішняя гімнастыка.
**5.30.** Раніца.
**7.50.** «Апошні заяц». Мультфільм.
**8.00.** Навіны.
**8.20.** «Багатыя таксама плачуць».
**9.45.** Наш музычны клуб.
**10.35.** Мультфільмы.
**11.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**11.20.** «Амаль смешная гісторыя». Маст. фільм. 2-я серыя.
**12.30.** «Прагулка ката Леапольда». Мультфільм.
**12.40.** «Безыменны замак». Маст. фільм. 6-я серыя.
**14.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**14.25.** Тэлемікст.
**15.15.** Уолт Дысней прадстаўляе...
**16.05.** Канцэрт удзельнікаў І Міжнароднага юнацкага конкурсу імя П. І. Чайкоўскага.
**16.25.** Дак. фільм «Маё імя Панама».
**17.00.** Навіны.
**17.20.** Міждзяржаўны тэлеканал «Астанкіна» прадстаўляе.
**17.50.** Дак. фільм «Ігар Ноткін. Філосаф галечы».
**18.00.** «Багатыя таксама плачуць».
**18.40.** Кінапанарама.
**19.45.** Добрай ночы, малышы!
**20.00.** Навіны.
**20.40.** «Яны гатовы жыць інакш». Сустрэча У. Познера з моладдзю ў Канцэртнай студыі Астанкіна.
**22.00.** Як жывеш, эстрада?
**23.00.** Навіны.
**23.25.** Каханне з першага погляду. Дзень другі.

**Канал «Расія»**

**7.00.** Весткі.
**7.25.** Час дзелавых людзей.
**11.50.** «Санта-Барбара».
**12.40.** Сялянскае пытанне.
**13.00.** Весткі.
**13.20.** З залы Канстытуцыйнага суда Расіі.
**15.00.** Казырная дама.
**15.30.** Гульня без пройгрышу.
**16.00.** Хрысціянская праграма «Вялікія пытанні жыцця».
**16.30.** Там-там навіны.
**16.45.** Далёкі Усход.
**17.30.** М-трэст.
**17.45.** Давайце разбяромся.
**17.55.** Зала чакання. «Каму на Русі жыць добра?»
**18.45.** Свята кожны дзень.
**19.00.** Весткі.
**19.20.** «Санта-Барбара».
**20.10.** Лясы.
**20.40.** Тэлебачанне ў законе.
**21.10.** Антракт.
**21.25.** На сесіі Вярхоўнага Савета Расійскай Федэрацыі.
**22.00.** Весткі.
**22.20.** З залы Канстытуцыйнага суда Расіі.
**22.50.** Цішыня № 9.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ: Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), А. ЦІХАНОВІЧ, С. ШАЎЦОЎ.

*НАШ АДРАС: 220041, гор. Мінск, праспект Ф. Скарыны, 77, рэдакцыя газеты «Звязда». ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 32-51-05, аддзела пісьмаў — 32-04-52, 32-41-92, навін —32-60-13, даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-35-91.*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.
Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку».
Тыраж 81.098. Індэкс 63.850.
Зак. № 190.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 21.00.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12